

# ВІЦЕБСКІ ЗЬВЯЗ №3

Бюлетэнь дэмакратычных партый горада Віцебска — Люты 1999


# СУПРАЦОЎНІЦТВА




**Дэлегацыя беларускай «Грамадзянскай ініцыятывы», у якую ўваходзіў і прадстаўнік Віцебска хрысціянскі дэмакрат Хрыстафор Жэляпаў, прыняла ўдзел у працы міжнароднай канферэнцыі па праблемах чарнобыльскай катастрофы ў Евангельскай акадэміі нямецкага горада Узенлона. Канешне жа, прадстаўнікі нашае групы не маглі не пабываць у гасцях у сяброў з суседняй Ніжняе Саксоніі, па запрашэнню якіх і наведалі Германію.**

***На здымку: (злева направа): Хрыстафор Жэляпаў, Віктар Чарноў і гацінны спадар Вольфганг Копф у Цэнтры IBW у Нінбургу.***

# ДЭМАКРАТЫ ПРАЦУЮЦЬ

Галоўнымі падзеямі пачатку лютага ў дэмакратычным асяродку горада безумоўна сталі сходы сацыял-дэмакратаў з Народнай грамады і рады БНФ «Адраджэнне». На паседжаннях былі вылучаныя прадстаўнікі ў абласную, гарадскую і раённыя камісіі па выбарах прэзідэнта. Сярод вылучаных -- вядомыя ў горадзе і вобласці палітыкі: Аляксей Гаўруцікаў, Іван Каліноўскі, Ніна Іванюк, Алесь Янушкевіч і іншыя. Усе яны ўжо сёння прымаюцца за працу, хаця разумеюць, якія перашкоды рыхтуюць іх дзеянням улады. Напрыклад, у Першамайскім аддзеле адукацыі правялі такую-сякую падрыхтоўчую кампанію, забараніўшы дырэктарам школ ствараць у сабе выбарчыя ўчасткі і нават на ганак дапускаць усялякія НЕвертыкальныя камісіі.

На Радзе БНФ таксама разгледзелі пытанне аб падрыхтоўцы да свята 25 сакавіка і пачалі стварэнне ініцыятыўных груп па збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты.

Як адзначаюць лідары мясцовых партыйных суполак, пакуль што самая вялікая праблема — матэрыяльныя сродкі. А грошы падаткаплацельшчыкаў ідуць не на ўладкаванне жыцця, не на паляпшэнне дабрабыту насельніцтва і, натуральна, не на законныя выбары прэзідэнта, а на захаванне рэжыму і падтрымку духоўна блізкіх арганізацыяў, накшталт БПСМ, рэкляма якога красуецца на віцебскім тралейбусе.

Працягваюцца ў горадзе і вучэбныя мерапрыемствы. Прайшоў праведзены ў рамках і пры падтрымцы Фонду Міжнароднага супрацоўніцва «Каунтэрпарт Альянс» семінар-трэнінг пад многаабяцаючай назвай «Абарона інтарэсаў». У ім удзельнічалі Віцебская гарадзкая асацыяцыя падтрымкі дзяцей-інвалідаў, Фонд сацыяльнай абароны інвалідаў і састарэлых, Новаполацкая асацыяцыя мнагадзетных сем'яў, Саюз творчай моладзі «Сёмая грань», МХСС, клуб выбаршчыкаў «Прыватная ініцыятыва» і іншыя.

Пры дапамозе трэнераў-каардынатараў Вітаўта Рудніка з Горадні і дэпутата Віцебскага гарадзкога Савета Міхаіла Шлыка былі прааналізаваныя пытанні развіцця недзяржаўных арганізацыяў, шукаліся шляхі вырашэння іх праблемаў.

Пабачылі свет чарговыя нумары бюлетэняў: міжпартыйнага «Віцебскі зьвяз» і сацыял-дэмакратычнага «Наша праўда». А віцебская суполка Задзіночання беларускіх студэнтаў разам з цэнтрам «Згода» выпусцілі першы нумар незалежнага выдання «Студэнцкі стыль». Будзем спадзявацца, што яно выклікае цікавасць у студэнцкім асяроддзі, як выклікала цікавасць праведзеная толькі што сфармаванай суполкай Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў дыскусія «Палітыка — справа «брудная», або Ці можа быць сумленным палітык?». На жаль, большасць з удзельнікаў прыйшла да высновы, што на іх долю выпадае займацца ня вельмі чыстай справай.

Вадзім СОСНІН

# БЕЗ НАТХНЕННЯ

Удзел у перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі значна актывізаваў дэмакратычныя партыі і арганізацыі вобласці. Хаця ў кожнай арганізацыі свой погляд на асобу будучага кіраўніка дзяржавы, найбольш прымальнай большасьць віцебскіх дэмакратаў бачыць фігуру экс-прэм`ера Міхаіла Чыгіра, які гуляе на неўтральным полі міжпартыйных адносінаў і тэарэтычна можа аб`яднаць вакол сябе розныя палітычныя колы. Нездарма ў штабкватэры цэнтральных органаў некаторых партыяў пайшлі запросы аб аналітычных выкладках па шанцах кожнага з магчымых кандыдатаў. Як гавораць шэраговыя сябры суполак, каб стрэл не адбыўся халастым.

А вось адмова дэмакратычных партыяў ад удзелу ў выбарах у мясцовыя Саветы зрабіла апошнія даволі прэсным мерапрыемствам.

У адрозненні ад папярэдніх выбараў, зараз актыўнасьць як кандыдатаў, так і насельніцтва намнога ніжэй і кампанія можа расцягнуцца на яшчэ больш вялікі тэрмін. Па-першае, усе добра разумеюць, што мясцовыя саветы з`яўляюцца абсалютна дэкаратыўнымі органамі, а па-другое, у гэтай мітусьне адмовіліся ўдзельнічаць у той ці іншай якасці дэмакратычныя партыі. Ні для каго ж не сакрэт, што асноўны цяжар агітацыі сярод насельніцтва кожны раз несьлі менавіта яны, чым залучалі сваіх прыхільнікаў і многіх праціўнікаў. І, напрыклад, на папярэдніх выбарах намесьнік старшыні гарвыканкама Ларыса Аленская не змагла стаць дэпутатам аблсавета толькі таму, што ў яе акрузе дэмакратычныя арганізацыі зусім не працавалі і выбары не адбыліся. Як вядома з апытаньняў жыхароў Віцебска і вобласці сацыялагічнымі службамі, жаданьне аддаць свой голас за «лепшых прадстаўнікоў народа» выказваюць ня болей за 15-20 адсоткаў у абласным цэнтры і амаль ніхто на вёсцы. Калі для вяскоўцаў раённыя ўлады збіраюцца выдзеляць аўтобусы, каб урачыста падвезці іх да кумачовай скрыні, то гараджан наўрад ці зацягнеш далей за буфеты нават зарэзэрваванымі дзеля гэткага «свята» камітэтам па эканоміцы выканкамаў таннымі кілбасамі й курамі.

Не сьпяшаюцца прыняць удзел у аб`яўленым прэзідэнтам мерапрыемстве і кандыдаты. Зноўку зверху шлюць каманды, каб вылучалі сваіх прадстаўнікоў прадпрыемствы і навучальныя ўстановы, калгасы і саўгасы. Улады спадзяюцца, што некаторыя партыі, накшталт ЛДПБ, КПБ і ПКБ, дапамогуць актывізаваць насельніцтва. Аднак тыя ж камуністы-калякінцы не занадта і ірвуцца ў бой, асабліва іх мясцовыя лідары, і каб не абавязваючае рашэнне цэнтральных органаў гэтае партыі, то кандыдатаў ад іх амаль бы й не было.

Вітаўт ДАЛІВА

# ПУЖАЮЦЬ — ЗНАЧЫЦЦА БАЯЦЦА

Паляпшэнне ўзроўню жыцця, аб якім заўсёды гаворыць прэзідэнт, нарэшце дакацілася і да Віцебску. Зь першага дня вясны віцябляне змогуць зьядаць удзень ужо не 10,7 грамаў купляемага па сьпісах масла, як у лютым, а ажно 12 і 9 дзесятых. За гадзіну-паўтары, што людзі выстойваюць у сьпісачных чэргах, яны нястомна дзякуюць уладзе за вялізны клопат аб іх дабрабыце. Тым больш, што нарэшце і бухгалтэрыі горада зрабілі пераразлік заработнай платы, якую павялічылі яшчэ зь першага студзеня, і хутка можна будзе калі не дагнаць узьляцеўшыя за два месяцы кошты, то хаця бы трохі да іх падцягнуцца. Але большасьць ужо не пляскае ў далоні ад гэткага росту зарплаты. Таму абяцаньне прэм«ера Сяргея Лінга павысіць да канца года заробак у тры разы, якое ён зрабіў на сесіі Віцебскага абласнога Савета, было ўспрынята без вялікага энтузіязму. Логіка простая: заробак — у тры, кошты, лічы, -- у пяцьшэсьць. Ад гэткага клопату і цукар, і масла хутка і па сьпісах купляць будзе няма каму.

Аб тым, што ўлада пільна сочыць за жыцьцём кожнага грамадзяніна, сьведчаць і факты наведваньня і запрашэнні намесьнікамі старшынь многіх райвыканкамаў вобласьці асобных грамадзян і прыватныя размовы з імі. Гэта было б добрай акалічнасьцю — улады йдуць у масы, але ўсе прадстаўнікі мас чамусьці аказаліся членамі раённых камісіяў па выбарах прэзідэнта. Менавіта іх будучыня так непакоіць адказных асоб, аб чым гэтыя асобы, трэба адзначыць, і гэта падкрэсьліваюць амаль усе, карэктна давялі да ведама грамадзян. Але перспектывы грамадзянам былі намаляваны вельмі непрыемныя.

Гэта яшчэ спроба запалохаць. Пакуль толькі ў Верхнядзьвінску ўладамі быў

ЗАКАНЧЭННЕ НА СТАРОНЦЫ 4

Стаіць на паўночнай ускраіне Віцебска, на беразе Заходняй Дзвіны, вёска Лужасна. Старажытнае гэта месца. Дзве з паловай тысячы гадоў таму да нашай эры балты зрабілі тут сваё паселішча, а потым і ўмацаванае гарадзішча, каб бараніць сваю маёмасць ад ворагаў. Напрыканцы першага тысячагоддзя нашае эры сюды прыйшлі славянскія плямёны крывічоў. Яны асімілявалі продкаў сучасных літоўцаў і латышоў, і з тых часоў павяліся на гэтай зямлі славяне, гэта значыцца мы.

Шмат таямніцаў пакінулі нам нашы продкі. Сярод тых таямніц нашай гісторыі, якія разгадаць нам пад сілу, — тапонімы — назвы месцаў.

А колькі ж па нашай зямлі такіх прыгожых назваў! Узяць хаця бы наша наваколле — Цёплы лес, Царкавішча, Сінія углы і г.д. У кожнай назве — вялікі сэнс і поўная інфармацыя для нашчадкаў. І інфармацыя найцікавейшая, якая дапамагае вывучаць нам гісторыю сваёй краіны і света ўвогуле, тлумачыць аб асаблівасцях клімата, жывёльнага і расліннага свету наваколля і дапамагае выхоўваць нашу нацыянальную самасвядомасць, адчуваць сябе як неад'емную частку гэтага края.

На прыкладзе аднаго з тапонімаў паспрабуем прадэманстраваць, што ўсё вышэй сказанае — праўда.

Сёння расказ пойдзе пра адно з такіх цікавых месцаў — так званы Цёплы лес. Ён пакрывае некалькі узгоркаў, адзін з якіх два з паловай тысячагоддзя таму назад выкарыстоўваўся старажытнымі жыхарамі гэтых месцаў як гарадзішча. Сучаснае паселішча, вёска Лужасна, знаходзіцца у цяперашні час паўднёвей, бліжэй да ракі Заходняя Дзвіна. Сярод мясцовых жыхароў бытуе цікавая легенда аб паходжанні назвы леса — «цёплы». Але перад тым, як тлумачыць гэтую назву, трэба зрабіць экскурс у гісторыю нашае краіны і гісторыю суседняй дзяржавы — Расіі.

У часы сярэднявечча, а больш дакладна ў сярэдзіне XVII стагоддзя, у Рускім царстве была праведзена рэлігійная рэформа. Ідэйным натхняльнікам яе быў патрыярх Нікан, і галоўным сэнсам яе было рэфармаванне праваслаўнай царквы, якая адстала ад патрабаванняў рэальнага жыцця. Гэта вызначалася як у зменах сур'ёзных — філасофскіх, тэалагічных, так і ў пытаннях абрадаў, побыта і іншага. Напрыклад, быў зменены звычай хрысціцца (ускладаць крыж). Пасля рэформы гэта трэба было рабіць

# «ЦЁПЛЫ ЛЕС»

не дзвума перстамі, а трыма. Слова «аллілуйя» зараз трэба было вымаўляць не два разы, а тры, рухацца вакол аналоя не па сонцу, а супраціў яго. У тэкстах богаслужэбных кніг былі зроблены замены адных слоў другімі, у сутнасці раўназначнымі: «певцы» сталі «песнопевцами», слова «вечное» было заменена на «бесконечное», «увидевшие» — «узревшие» і г.д. Няма сэнсу паглыбляцца ва ўсе асаблівасці рэформы, цікавячымся можна параіць звярнуцца да падручнікаў гісторыі.

Большасць насельніцтва прыняла рэформу і пагадзілася з тымі зменамі ў жыцці і набажэнсцве, якія яна прынесла. Другая частка, трэба адзначыць, не вельмі значная, прыняла рэформу варожа і ні пад якім выглядам не пагаджалася са зменамі. Так узнікла *стараабраднiцтва* - складаны рух, як па складу удзельнікаў, так і па сваёй сутнасці. Прыхільнікамі поглядаў стараабрадцаў былі стральцы, частка белага і чорнага духавенства, баярства, просты люд. Агульным лозунгам іх было вяртанне да старыны, пратэст супраціў усіх нававядзенняў. Афіцыйная, рэфармаваная праваслаўная царква пачала называць такіх людзей *«раскольнікамі,* так как іх дзеянні, на іх погляд, прывялі рускую праваслаўную царкву *да раскола.* Ужываліся і другія назвы, сярод якіх *«стараабрадцы», «стараверы»*, гэта значыцца: вернікі, якія прытрымліваліся старога, дарэформеннага абрада ў набажэнстве, старой «ісціннай» веры. У сваю чаргу, стараверы называлі прыхільнікаў рэфармаванай царквы «ніканіянамі» (па імені патрыярха Нікана, галоўнага натхняльніка змяненняў). Так, ці інш, але афіцыйная царква пачынае ганенні на старавераў. Царкоўны сабор 1666-1667 гг. абвясціў праклен усім праціўнікам рэформы, перадаваў іх суду свецкай улады, якая павінна была у сваей дзейнасці абапірацца на артыкул Улажэння 1649 года, які прадугледжваў спаленне на кастры кожнага, «хто ўскладзе хулу на Госпада Бога».

І ў розных кутках Русі запалалі вогнішчы «расійскай інквізіцыі». На адным з такіх кастроў у 1682 годзе быу спалены пратапоп Аввакум, ідэйны айцец стараабрадцаў.

Жадаючы пазбегнуць рэпрэсіяў, стараверы выкарыстоўвалі розныя метады барацьбы, ад адкрытай узброеннай барацьбы да самазнішчэння (самаспалення), аддаючы усё ж такі перевагу пасіўным: перасяленне ў тыя месцы, дзе іх «не чапалі». Галоўным чынам гэта былі цяжкадаступныя мясціны — Сібір, Урал, узбярэжжа Белага мора. Але сілы былі няроўныя: на баку ніканіян былі царква і дзяржаўная улада, з яе апаратам прымусу, у той час, як іх сапернікі маглі праціздзейнічаць ім толькі словам. Улада, жадаючы вынішчыць крамолу, дабіралася і на ўскраіны «айкумены» Русі. (Адно з месцаў, куды яна не дабралася, зараз добра вядома ўсяму свету, дзякуючы намаганням журналіста Васіля Пяскова. Гэта паселішча Агаф'і Лыкавай).

У склаўшыхся ўмовах найлепшым выхадам для старавераў было перасяленне за мяжу, у суседнія краіны, якія б падыходзілі ім па шэрагу прызнакаў, сярод якіх верацерпнасць і блізасць да радзімы. Найлепшым чынам сюды падыходзіла Вялікае княства Літоўскае як састаўная частка Рэчы Паспалітай. Сюды ад рэлігійанага ўціску беглі ня толькі ідэйныя лідары старавераў, рускія «ерэтыкі», напрыклад, такія, як Васіль Касы, а і шмат простага люду. Адсюль і павяліся на нашай зямлі цэлыя «рускія» ці, як называюць іх на паўночна-усходняй Віцебшчыне, «маскоўскія» вёскі. Асабліва шмат іх па былому літоўска-маскоўскаму памежжу (сучасныя Гарадоцкі, Віцебскі, Лёзненскія раёны), хаця даволі шмат іх у цэнтральнай і заходніх частках краіны, (напрыклад, у Барысаўскім, Браслаўскім раёнах). Насельніцтва такіх вёсак у большасці сваёй аднародна. Гэта высокія, дужыя людзі, якія ладзілі сваё жыццё па законах старыны. Не цярпелі новаўжыванняў — еўрапейскага адзення, тытуню, не пілі гарэлкі, абавязкова насілі бароды. Вельмі неахвотна ішлі на кантакты з «не сваімі». Напрыклад, не кожны гаспадар дазволіў бы пакарыстацца вам сваім калодзежам, калі б вы папрасіліся прагнаць смагу. Для такіх выпадкаў існавала спецыяльная «паганая» кружка, з якой пілі няпрошаныя госці. Адзнача-ліся цяжкім норавам і, кажуць, не гнушаліся разбоем.

Людзей такіх у княстве называлі *маскалямі* ці, радзей, *«маскавітамі».* Так, увогуле, спачатку называлі любога жыхара Маскоўскага княства, а потым Рускага царства. Такім чынам, *маскаль* -- гэта не лаянка, не абраза, а празвішча, мянушка тых, каго зараз мы *клічам рускімі,* так сама як жыхары Нямеччыны для жыхароў тых часоў былі *немцамі,* яўрэі былі *габрэямі,* а жыхароў ВКЛ, не гледзячы на нацыянальнасць (беларус ён быў, ці украінец, ці літовец), называлі *ліцвінамі.*

Зрабіўшы вось такі прастранны экскурс у гісторыю (без якога пэўна можна б было і абыйсціся, але ж шмат чаго было б непаразумелым), зараз мы і падыйшлі непасрэдна да Лужасна, да аднаго з яго тапонімаў -- *Цёплы лес.*

У Лужасне, ях і ў некаторых вёсках непадалёк, напрыклад, у Букаціне, здаўна пасяліліся маскалі. І нораў у іх быў прыкладна той, што ўжо апісаны вышэй. А зусім нездалёк ад вескі праходзіў гасцінец на Гарадок, Невель, Востраў, Пскоў і далей на поўнач, якім карысталіся мясцовыя сяляне і гандляры, якія дабіраліся менавіта па яму на Віцебскі кірмаш. За гэтай вёскай, у гарадоцкім напрамку, прасціраўся тады яшчэ вялікі лес. Ен меў худую славу, таму, што ўвечары, а тым больш уначы, рабавалі і часта забівалі тут тых падарожнікаў, якія спазніліся з кірмашу, і, наадварот, з вечара да яго дабіраліся. Праехаць яго стараліся, збіраючыся ў вялікія групы, але не заўсёды гэта дапамагала ад ліхіх людзей. Калі ужо і не пашчасціла ехаць ці ісці праз яго аднаму, так намагаліся зрабіць гэта як мага хутчэй. Конныя ці тыя, хто былі на калесах, лупцавалі сваю худобу ў надзее, што пранясе, праскочаць праз небяспечнае месца і не дагоняць іх злыдні. Тыя ж, хто ішоў пешшу, бег ва ўсе лыткі. Безумоўна, што пасля такой «прабежкі» і коні, і тым больш людзі былі мякка кажучы «разагрэтыя», ці проста «ў мыле»; таму лес пачалі называць цёплым, бо, праехаўшы ці прайшоўшы праз яго, пра холад ужо не думалі.

Можна знайсці і другое раз'ясненне такой назве, абапіраючыся на метэаралагічныя назіранні. Лужасна знаходзіцца на беразе Дзвіны, а лес -- на поўначы, паўночным захадзе ад яго, ды к таму ж яшчэ і на ўзгорках. Такім чынам, ён як бы «прыкрывае» паселішча ад халодных паўночных і паўночна-усходніх вятроў, якія частыя ў нашай мясцовасці.

Вось так можна растлумачыць на першы погляд простую, нічым не выдзеляючуюся адну з назваў нашай роднай зямлі, праз яе дакрануцца да яе гісторыі, мовы, культуры. Адчуць сувязь навук — гісторыі, біялогіі, геаграфіі, краязнаўства, сувязь народаў на нашай невялічкай у сусветных масштабах планеце, яе непаўторнасць, моц і, у той жа час, крохкасць.

ПІВАВАР М.В.
*Настаўнік гісторыі.*
*Лужаснянская гімназія*

# ПУЖАЮЦЬ — ЗНАЧЫЦЦА БАЯЦЦА

ЗАКАНЧЭННЕ. ПАЧАТАК НА СТАРОНЦЫ 2

зроблены рашучы крок: журналістцы Валяньціне Кудлацкай шчыра прапанавалі выбіраць паміж працай у камісіі альбо працай на раённым радыё. Калі улічыць колькасць працоўных вакансіяў, ды яшчэ творчых прафесіяў, для жанчын у маленькім гарадку, выбар зразумелы.

Старшыня абласной камісіі Васіль Шалухін назваў гэткія дзеянні пачаткам разьюшанай кампаніі, у якой мясцовыя улады, выконваючы загады зверху, могуць зламаць лёсы як людзям, так і сабе. Дыскрымінацыя жа па палітычных матывах у нас зрабілася, нажаль, звыклай зьявай, за якую ніхто пакуль не нёс адказнасці. Таму і ствараецца часовая ілюзія ўсёдазволенасці, але, адмовіўшыся ўдзельнічаць у падрыхтоўцы выбараў, мясцовыя ўлады не маюць цяпер права кантраляваць і ўздзейнічаць на іх хаду.

А каардынатар выбарчай кампаніі па віцебскай вобласьці, Іосіф Навумчык, якога толькі што за ўдзел у паседжанні Цэнтрвыбаркама ўлады аштрафавалі на 15 мільёнаў, пракаментаваў гэты ўціск так: «Пужаюць — значыцца баяцца».

Алег ЖУКОЎСКІ

# У ПОЛІ ЗРОКУ — АБАРОНА ІНТАРЭСАЎ ГРАМАДЗЯН

Віцебскае бюро Праваабарончага Цэнтра «Вясна-96» трымае ў полі зроку самыя розныя справы, якія лічыць парушэннем правоў людзей.

Так яго актывісты наведалі сям`ю віцебскага калекцыянера Віктара Савіцкага, які адбывае зараз тэрмін пакарання — чатыры гады калоніі агульнага рэжыму — па артыкуле 213 частка першая Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь. Пастановай суда ад 15 ліпеня 1998-га года Савіцкаму інкрымінавана нашэнне і перахоўванне зброі, баявых патронаў і выбуховых рэчываў. На працэсе пракурор запрасіў для абвінавачваемага тэрмін пакарання чатыры гады ўмоўна, але суддзя палічыла правапарушэнне вельмі грамадска небяспечным і пасля тэлефоннай кансультацыі аб`явіла надзвычай жорсткі для практыкі падобных разглядаў вырок — чатыры гады калоніі. Мяркуючы па ўсіх гэтых прыкметах, лічаць у «Вясне-96», справа кантралявалася зверху.

Сюжэт з арыштам Віктара Савіцкага некалькі разоў выкарыстоўвала Беларускае тэлебачанне. Знойдзеную зброю і патроны міліцыянты са смакам раскладалі на бел-чырвона-белых сьцягах, на іх жа дэманстравалі калекцыю старажытных манет, медалёў і ордэнаў. Да таго ж у Віктара знайшлі стос антыпрэзідэнцкіх улётак.

Такім чынам, па меркаванні прадстаўнікоў «Вясны-96», жорсткі тэрмін пакарання Савіцкі атрымаў большай часткай за сваю грамадска-палітычную арыентацыю, бо зрабіць з гэтай справы якуюсьці арганізаваную падрыхтоўку да баявых дзеянняў следчым не ўдалося.

Небезпадстаўна разлічвае на дапамогу Віцебскага бюро Праваабарончага Цэнтра «Вясна-96» у сваёй справе і спадар Міхась Паўлаў.

Шмат хто зь віцебскіх аўтамабілістаў пацярпеў у часе ачумелай падрыхтоўкі да леташняга Славянскага Базара. Прабітыя колы, пашкоджаная хадавая частка — вынік зрэзвання асфальтнага пакрыцця спецыяльнай фрэзернай машынай, якая пакідае доўгія палосы згрызенага асфальту з перападам вышынь ў 15-20 сантыметраў. Аб`яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі Віцебскага гарвыканкама аднак жа не парупілася папярэдзіць вадзіцеляў аб гэткіх перашкодах на вуліцах абласнога цэнтра. Не былі выстаўленыя адпаведныя знакі, у гарадскіх газетах не з`явілася ніводнай зацемкі пра небяспеку падобнага роду. Адным з пацярпеўшых і апынуўся спадар Паўлаў, які вырашыў асабіста абараніць правы карыстальнікаў, падаўшы іскавую заяву ў Кастрычніцкі суд горада.

Да пракурора таго ж раёна група грамадзянаў горада зьвярнулася з заявай, у якой патрабуе ў адпаведнасці з артыкулам 50 Канстытуцыі Беларусі забяспечыць выкарыстанне беларускай мовы ў перадачах радыёвузла Віцебскага універмага па вул. Замкавай. Атсутнасць роднага слова пры перадачы інфармацыі па ўнутранай радыёсетцы яны ўспрымаюць як знявагу нацыянальнай годнасці.

Павал ЕРМАКОЎ

# Нефармальны беларус

*Словы і музыка*
*Сяржука Сокалава-Воюша*

Ці звонка сьвісьне пугаўё,
Ці вольны вецер загуляе,
Мы слова роднае сваё
На поўны голас вымаўляем.
Сьмяюцца з пылам у вачах,
Маўчаць сумлiўцы ў паняверцы.
А шал на здрадніцкіх лычах
У наступ кліча нашы сэрцы.

*Прыпеў:*
Няхай ману разносіць хлус, хай хлус...
Няхай стукач шукае змову.
Я нефармальны беларус, я — беларус,
А вы, навокал, хто вы?

Стагодзьдзі гледзяць нам усьлед,
І мы свой позірк не хаваем,
На папялішчах даўніх бед
Мы сёньня памяць засяваем.

Каб адрадзіць і захаваць
Усё, чым трызьняць ліхадзеі:
Бязроднік — з мэтай зруйнаваць,
А здраднік -- нават пыл развеяць.

*Прыпеў.*

Звыроднік пашпарт валачэ...
Ці нам прыпадабняцца гнюсу?
Адзнака ў пашпарце яшчэ
Не права звацца БЕЛАРУСАМ!

Па гэтай годнасьці сьвятой
Згадайма мову, памяць, веру...
Навечна варты толькі той,
Хто беларус і без паперы!!!

*Прыпеў.*




ВІЦЕБСКІ ЗЬВЯЗ
+©bars design 1998

*Гал. рэдактар*
В.Баршчэўскі
*Рэд.калегія*
А.Гаўруцікаў
Х.Жэляпаў
М.Паўлаў

Наклад — 299
Рэдакцыя можа не падзяляць пункт погляду аўтараў
Вёрстка, дызайн — А.Баршчэўскі

Міжпартыйны бюлетэнь выходзіць пры падтрымцы Беларускага Рэспубліканскага Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі
L. SAPIEHA